# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 24 (1268) ГОД XXV БЕЛАСТОК 15 ЧЭРВЕНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.


КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# Вычулкі

Калі захочаце завітаць у іх, шукайце дарогі ў Клюковічы, што ў гміне Мілейчычы, а там усяго ў кіламетры на ўсход гэтая вёсачка-вуліцоўка. Пэўна, каб лапата ды вока археолага заглянулі ў стары могільнік, пра які легенда кажа, што там пахаваны шведы, нашыя веды пра мінулае гэтых ваколіц значна ўзбагаціліся б. Адгэтуль выцякае рэчка Пульва, а не вярхоўе археолагі лічаць сапраўднай кладоўкай гарадзішчаў і могільнікаў беларускага племені дрыгавічоў недзе з VII-IX стагоддзяў. Вычулкі маюць даўнюю метрыку, як сяло яны ўпамінаюцца ў дакументах ужо ў 1528 годзе.

Водгулле даўніны, хоць і не такой сівой, тут усё ж значнае. Захавальнік памяці пра былое і з дасканалай памяцю, хоць са слабенькім наогул здароўем, хранікар 83-гадовы Пётр Пытлюк прыгадвае прымаўку, якую чуў яшчэ ад свайго дзеда: „Як быў Сас — было добра ў нас, як настаў Панятоўскі — стала па-чартоўскі". Няма чаго дзівавацца, што гэтая прыказка захавалася якраз тут. Гэта ж усяго ў якіх 20 кіламетрах на поўдзень (цяпер у Беларускай ССР), знаходзіцца Воўчын — калісьці родавы маёнтак Панятоўскіх. Відаць, апошні польскі кароль не карыстаўся асаблівa добрай славай сярод сваіх панкоў-землякоў, ганьбавалі яны яго, як толькі маглі. А чалавечая зайздрасць — жывучае гадаўё, нават праз дзвесце год адзываецца. Не выпала з памяці і пазнейшая падзея — Студзеньскае паўстанне 1863-4 г.г. Ды і не магло быць інакш. Гэта ж не так далёка адсюль да фальваркаў Шастакова і Вострава, адкуль паходзіў і дзе жыў адзін з кіраўнікоў паўстання Рамуальд Траўгут. Захавалася паданне, што пасля таго, як паўстанцкі атрад Замэчка Ціхорскага быў разбіты пад Сямяцічамі, яго рэшткі кінуліся наўцёкі ад войск генерала Манюкіна ў бок Белавежскай пушчы. Хаваліся па панскіх дварах, між іншым у суседнім маёнтку Янцэвічы. Пагоня не спынялася, і настрой у паўстанцаў не быў надта бадзёры. Згадваюць, што адзін з іх, хаваючыся ад казакоў, уціснуўся ў комін і там задушыўся. Паўстанчаскі рух, відаць тут не меў народнага, сялянскага характару, як, напрыклад, на Сакольшчыне ці ў ваколіцах Гродна. На тадышняй Брэстчыне яго лічылі „панскім мяцяжом". Чужыя гэта былі справы для простага чалавека: „ходылі мы на паншчыну і нычого ны відалі" — казалі дзяды.

Пасля правядзення рэформы Вычулкі атрымалі 25 „учaскаў". У памяці захаваліся прозвішчы сялян, што „сядзелі" на іх у пачатку нашага стагоддзя: Дымчук, Еўдакімюк, Заяц, Каляда, Каралюк, Ляшук, Міткевіч, Нікіфарук, Пыталь (паўтараецца некалькі разоў, вельмі стары род), Самойлюк, Самосюк, Сахарчук, Страпчук, Чайкоўскі, Швец, Шулькнк, а сярод тадышніх імёнаў былі: Гарайм (ад „Геранім"), Даныло, Дэмэнті, Дэмян, Мыкыта, Мысій, Самусь, Устын, Юзапат. Так! Гэта не тое, што сённяшнія Даркі ды Маркі...

Той час падняволъный паслухмянасці і абыякавасці да ўсяго, што дзеецца за ваколіцай роднага сяла, змяніўся тут

(Працяг на стар. 4)



*У засені старых дрэў Вычулкі жывуць сваім працавітым жыццём.*



*Народны настаўнік Канстанцін Пытлюк нават і на пенсіі не адрываецца ад кніг.*




Прaзвінеў апошні званок. Як штогод, усе сабраліся ў фізкультурнай зале, уся 536-асабовая сям'я. Насупраць за сталом засела 25 настаўнікаў на чале з дырэктарам Васілём Ляшчынскім і яго намеснікам Мікалаем Якубюком. Але гэта не ўрок. Ніхто не правяраў зададзенага, не паясняў нават тэмы. Навучальны год закончыўся. Вучні прыйшлі, каб атрымаць пасведчанні за сваю працу, развітацца са школай, сябрамі, настаўнікамі і вучнямі. Для 55 маладых людзей гэта апошняя хвіліна ў пачатковай школе, дзе прабывалі восем год.

Мінулы навучальны год быў пятнаццатым годам існавання Пачатковай школы № 3 у Бельску. Сваю самастойную працу распачалі ў 1965/1966 годзе. Дружны і добра дабраны настаўніцкі калектыў, з якога 76% з вышэйшай (магістэрскай ці прафесіянальнай) падрыхтоўкай, дае з сябе ўсё, што можа. І не бясплодна. Няма тут цяпер такога вучня, які б закончыў сваю адукацыю на пачатковай школе. Дзякуючы высокаму ўзроўню навучання і ўдаламу супрацоўніцтву, вялікая колькасць іх абсальвентаў прадаўжае вучобу ў Агульнаадукацыйным ліцэі імя Браніслава Тарашкевіча, што памяшчаецца ў тым жа будынку. Прыкладна, з апошніх васьмікласнікаў у Бельскі беліцэй пайшло аж 30 вучняў. Доказам высокага ўзроўню з'яўляецца і тое, што на 75 месц для пераможцаў у розных прадметных алімпіядах на ваяводскім узроўні — аж 27 выпала іхняй школе. Кожны другі былы іх абсальвент, які прадаўжаў вучобу ў мясцовым белліцэі, ідзе вучыцца далей, кожны чацвёрты з'яўляецца студэнтам. Добрая падрыхтоўка ў пачатковай школе — гэта істотная справа. Прыходзяць сюды дзеці, як тыя „белыя таблічкі". І ад настаўнікаў у немалой ступені залежыць, што яны на іх напішуць, якія разбудзяць зацікаўленні. А з добра падрыхтаваным вучнем і далей працаваць лягчэй.

Урокі, падручнікі, падрыхтоўка зададзенага — гэта хаця і галоўны, але не адзіны спосаб перадказання ведаў, выхавання. Школа з'яўляецца вялікім арганізмам і так, як у чалавека, кожная частка павінна жыць так, каб добра дзейнічаў цэлы арганізм. Не малую ролю адыгрываюць тут і гурткі зацікаўлення. У сярэднім аж сто вучняў з класаў ад шостага да восьмага пашырае ў іх свае веды. Не менш істотнымі з'яўляюцца таксама і школьныя арганізацыі. Перш за ўсё ЗГП, што ў вялікай ступені рыхтуе да самастойнасці, ці ЛОП, што вучыць пашане да прыроды. У мінулым навучальным годзе школьны гурток Лігі аховы прыроды заняў трэцяе месца ў ваяводстве ў конкурсе „Ахоўваем помнікі прыроды". Цікавай формай выхавання працай з'яўляецца клуб адкрытых школ. Пасля ўрокаў вучні часта збіраюцца і фізічна працуюць для дабра сваёй школы і асяроддзя. Ужо чацверты год школа вылучаецца гэтым у нашым ваяводстве.

(Працяг на стар. 5)

## Сустрэча ў ВК ПАРП

**26 мая г.г. І сакратар Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку Уладзіслаў Юшкевіч сустрэўся з кіраўніцтвам ГП БГКТ.**

**Прадстаўнікі нашай арганізацыі паінфармавалі І сакратара аб падрыхтоўцы да IX з'езду БГКТ і прадставілі надзённыя праблемы, якія хвалююць бэгэкатоўскі рух. Шмат увагі было прысвечана таксама перспектывам далейшага ўдасканальвання дзейнасці БГКТ.**

**У сустрэчы ўдзельнічалі: старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, намеснік старшыні Георгій Валкавыцкі, сакратар ГП Янка Зенюк і сакратар партарганізацыі пры ГП Міхась Хмялеўскі. Прысутнічаў таксама загадчык Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП Здзіслаў Рыбіцкі.**




Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы заняла першае месца ў ваяводстве ў спаборніцтве працы.

— Якіх вы дабіліся поспехаў, каб заваяваць першынство? — звярнуліся мы з пытаннем да сакратара пярвічнай партыйнай арганізацыі пры гайнаўскім СКР, тав. Кэндыся (дырэктара СКР у той дзень мы не засталі).

— Мы значна перавыканалі план паслуг і сельскагаспадарчай прадукцыі (на 13,6%) і дабіліся 3 мільёнаў 85 тысяч злотых даходу. У нас працуе 176 асоб, у тым ліку 68 трактарыстаў, 17 механікаў, 13 свінароў, 10 палявых работнікаў, 5 будаўнікоў і інш. У нашым машынным парку 11 „Бізонаў", 4 камбайны для капання бульбы, 37 бульбакапалак, 32 снопавязалкі, 14 ратацыйных касілак, 6 палявых сячкарняў, 27 апырскваччаў, 17 сеўнікаў вапны і іншыя. Спулдзельня ахоплівае сваёй дзейнасцю 2380 гаспадарак агульнай плошчай 11800 гектараў у Гайнаўскай і Белавежскай гміне ды ў самой Гайнаўцы. Свае пункты механізацыйных паслуг мае ў Чыжыках, Гайнаўцы, Махнатым, Навасадах і Арэшкаве.

У мінулым годзе нашы трактарысты працавалі ў сярэднім па 1760 гадзін кожны, у тым ліку па 549 гадзін пры палявых работах (у 1978 годзе прыпадала 1475 гадзін на 1 трактар). Вялікіх поспехаў у гэтай дзялянцы дабіліся 11 трактарыстаў і яны былі ўзнагароджаны. Званне „Перадавік сацыялістычнай працы" заваявў Мікалай Снарскі і званне „Брыгада сацыялістычнай працы" — брыгада Леапольда Пашкевіча і Пятра Лапінскага.

Спулдзельня спецыялізуецца ў рамонце снопавязалак (у 1979 годзе адрамантавалі іх каля 100 штук). Спулдзельня вядзе гаспадарку на 750 гектарах земельных угоддзяў. У мінулым годзе прадала дзяржаве 440 тон жывой вагі свіней. У мінулым годзе закончылі пабудову свінарніка ў Дубінах і пачалі мадэрнізаваць хлеўню для свінаматак. У тым жа годзе сабрала яна 457 тон збожжа, 405 тон бульбы і зрабіла 237 тон квашанак.

СКР дбае пра паляпшэнне сацыяльна-бытавых умоў для сваіх работнікаў. У мінулым годзе перадала яна ў карыстанне святліцу, гардэроб і пакойчык для снедання.

Працаўнікі гайнаўскага СКР выканалі грамадскі пачын вартасцю 132 тысячы злотых.

Сёлета ва ўнутраным спаборніцтве удзельнічаюць чатыры брыгады (у іх 30 чалавек). Найлепшая з іх атрымае званне „Брыгады сацыялістычнай працы". Найлепшы працаўнік змагаецца за званне „Перадавік сацыялістычнай працы". Спаборніцтва праходзіць паспяхова і з лепшымі вынікамі, чым у аналагічны перыяд у мінулым годзе.

Запісаў **Я. Целушэцкі**




# ВАЗЬМІ І ПАЙМІ

Не магу з жонкаю пагаварыць у адно. Заўсёды канчаем спрэчкамі. Толькі вам прызнаюся: добра, што мая доўга не гневаецца. Вось і цяпер пытае мяне: скажы, стары, бо не магу паняць! У мінулым годзе дыскутавалі на старонках „Нівы", чаму моладзь уцякае з вёскі. Большасць выказалася, што таму, што цяжкая праца, няма культурнага жыцця, неўпарадкаваны гадзіны працы Проста горад — другі свет. Так было ў мінулым годзе. А сёлета чытаю, кажа жонка, некаторыя пішуць, што на вёсцы лягчэй працаваць. У горадзе праца цяжэйшая, больш чалавек стоміцца. Вазьмі паймі! Растлумач, стары, а то я ўжо ў тупіку. Толькі адно цікавіць мяне: калі на вёсцы такі рай, чаму маладыя пруцца ў горад, як жабы на купіну? Гавары, гавары, кажу. Потым скажу, што думаю я.

Яна гаворыць далей. Мне здаецца, пакуль на вёсцы будзеш мець уласную гаспадарку, лёгка не будзе і раскошы не зажывеш. Заўсёды чагось не будзе. Зайздросны будзеш. Цягнуцца будзеш, як ужва, каб суседу дараўняць. А то ён трактар купіў, на самаход уплаціў. І так кругом, як у млыне. А яшчэ, не дай Бог, пачнеш будавацца, то бяды не забракне. Слухаеш, стары? Ага, ага, слухаю. Найлепш пераканацца, глядзеўшы „У сонцы і ў дажджы", што паказвала тэлевізія. Праўда? Гэты Малалепшы, то не адзіны малады гаспадар, які застаўся на вёсцы. Лёгка яму было? Каб другі на яго месцы, то мог бы здурнець. Трошачкі ён меў шчасця — ажаніўся. Бо на вёсцы ажаніцца, — гэта немалая праблема. Не хочуць на гаспадарку ісці. Можна ў гэтым пераканацца на маладых нашай вёскі. Толькі ўжо і не маладыя яны! Не маглі пажаніцца, бабылямі засталіся. А ты ўсіх не пажэніш, даволі было Васіля. А ты што думаеш, стары? Растлумач мне, а то замоўк, як вады набраў у рот.

Мы з табой, даражэнькая, як два супрацьлеглыя берагі. Хаця ты мяне ўсведамляла доўга, а я ведаю адно: вёска — то не горад! На вёсцы маю я ўсё сваё, сам сабе пан. Колькі хачу працую, колькі хачу адпачываю, ніхто мяне не ганяе, апрача цябе. Ты, жоначка, паглядзі кругом. Ці горш за другіх жывем? А калі сабе пазволю на што, то за сваё. А вёскі прамяняць не змагу ніколі. А вось у цябе ў галаве другі напрамак. Нездарма кажуць: калі баба тапілася і то паказала два пальцы, што стрыжанае.

Старая аж пачырванела. Пастой! Я цябе астрыжу, калі ў поле пойдзем. Бо не знойдзеш ты ані хвілінкі вольнай у тваёй казачнай вёсцы!

**Г. Мароз**




**налобнік, -а** мужч. — частка аброці. Гэта вузкі рамень, які прылягае да галавы каня і трымае аброць, каб не ляцела назад. Вазьмі всучы нітку і прышый налобнік, а то одным боком оборваўся. Ну як жэ можэ быті обротька бэз налобніка?! Бач, як куонь налобніком ворсу на головіэ вытэр.

**отюосок, -а,** мужч. — спецыяльны дрот, які трымае аглоблю і дапамагае пры кіраванні возам. „Отюоскуў" было заўсёды два. Адным канцом прымацаваны яны да воза, другім — да аглобляў і не дазвалялі ім разыходзіцца. Возьмі заложы отюосок. Трэба муцніэй натягнуті отюоскі, бо штось оглобліэ росходяцца. Ну, як ты бэз отюоскуў пойедэш?

**пэрэнуосе, -я,** ніяк. — частка аброці, якая нагадвае „налобнік", толькі праходзіць ніжэй. Прылягае яна да носа каня і трымае аброць, каб пры кіраванні, асабліва калі ехаць вярхом, тая не злятала. В твоюой оброті затіэснэ пэрэнуосе. Як ты бэз пэрэнуося пойедэш, то ж нэ вкіруеш.

**шына, -ы,** жан. — драўляная планка, якой падбіваюць у санках палазы, калі тыя з'ездзіліся. Давай полузы шынамі попудбіваем, а то зімою нэ будэ чым йездіті. Колі нэма з чого шынуў зробіті.

*(Пуціска, гміна Гайнаўка)*



*Найбольш заслужаным сялянам з гміны Нурэц-станцыя начальнік гэтай гміны Міхалай Косцюк уручыў значкі „Заслужаны для Беласточчыны".*

ЛЕТА З ПЕСНЯЙ

# НА ТРОЙЦУ Ў ЛІТВІНАВІЧАХ



*Выступаюць беластоцкія „Каласкі".*

25 мая 1980 года, ужо дзевяты раз адбыўся **ў Літвінавічах,** Нурэцкай гміны, традыцыйны народны фэст. Наладзілі яго супольнымі сіламі члены мясцовых гурткоў **Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Аб'яднанага людова а страніцтва,** ды не толькі яны, а проста ўсе жыхары вёскі, вось як і Кузьма Мішчук, які адначасова з'яўляецца членам БГКТ і скарбнікам гуртка ЗСЛ.

— У чацвер, — кажа ён, — мы тут сабраліся, афармілі справу з ляснічым, паехалі трактарамі ў лес, спусцілі пару соснаў, завезлі іх на крайзэгу, парэзалі, зараз жа абгэблявалі і... глядзіце, якія лавачкі выйшлі.

Сапраўды, вакол прасторнай пляцоўкі, якая акружае вясковую святліцу, стаяць зараз новенькія лаўкі, каб людзі маглі прысесці на іх і пагутарыць аб сваіх сямейных і грамадскіх справах. Ззаду, за святліцай, з гэтых жа дошак збілі яны яшчэ і сталы, на якіх тут жа знайшоўся і пачастунак, бо што рабіць, калі з нагоды свята сустрэнуцца сябры і сваякі з розных вёсак?!

Фэст аднак праходзіў спакойна і культурна. Пасля афіцыйных прамоў, з якімі выступілі: ад імя ЗСЛ — дзеяч гэтага страніцтва, жыхар вёскі Літвінавічы **Кастусь Мішчук** і ад імя БГКТ — настаўнік Гайнаўскага ліцэя з беларускай мовай навучання **Аляксандр Іванюк,** сельскагаспадарчы банк з Нурца наладзіў конкурс ведаў аб фінансавай дапамозе сялянам з боку дзяржавы. Пасля пачаўся канцэрт беларускай песні. Спярша спявалі дзяўчаты з беластоцкага калектыву **„Каласкі"**, а пасля падмянілі іх дубяжынскія **„Дубочкі".** У перапынках са сваімі маналогамі выступаў **Ян Крупа.** Ужо само яго паяўленне на сцэне выклікала жывое зацікаўленне.

— О, гэты то зараз скажа да смеху, — шапталі людзі між сабой. І сапраўды, жарты Яна Крупы, можа не найвышэйшай якасці, але па-народнаму грубаватыя, з яснымі намёкамі на сучасныя балячкі жыцця, выклікалі шчыры смех.

— Ой, добрая гэта „Лявоніха"! — хвалілі нашых аматараў людзі. — Каб толькі яна часцей да нас прыязджала, а не раз у год!

І гэта найважнейшае. Людзі пазбіраліся з многіх вёсак, каб паслухаць свае песні, каб пачуць роднае слова, каб пабачыць тое, чаго не пакажа ім аніякая тэлевізійная праграма! А да таго ж аб усім гэтым тут можна было пагутарыць з суседам, з сябрам.



*Хлопцы з Дубяжына пад кіраўніцтвам Пятра Нявінскага таксама заваявалі сэрца ўдзельнікаў фэста.*

Пасля абеду да позняй ночы ў Літвінавічах грымела танцавальная музыка. Толькі танцаваць давялося ў цемнаце (з чаго некаторыя і цешыліся), бо кляшчэлеўскі энергетычны пункт адключыў у Літвінавічах вулічнае асвятленне, паясняючы гэта патрэбай ашчаднасці электраэнергіі. На шчасце, у Літвінавічах гарыць болей шляхетны агонь — агонь культурнага святла і грамадскай актыўнасці.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*На фэсце ў Літвінавічах сабраліся людзі з многіх суседніх вёсак.*




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯНКА КУПАЛА — ЧАСТКА III

Асабліва цяжкім у жыцці Купалы аказаўся 1901 год. На працягу кароткага адрэзка часу памёр яго бацька, брат і дзве сястры. У сваёй аўтабіяграфіі пісьменнік, гаворачы аб гэтым трагічным факце, інфармуе аб тым, як да яго аднёсся мясцовы ксёндз: „Брат умер на неделю раньше. Когда в последствии я привёз хоронить обе сестры вместе, то ксёндз потребовал двойную плату за похороны. Я протестовал потому, что его труд был ни больше ни меньше, чем при похоронах одного брата. На это ксёндз ответил, что там он брал плату за одну голову, а тут за две головы. После этого, хотя я до позванного случая не был очень верующим, но этот торг духовника „выбил из меня остатки веры".

Пасля смерці бацькі Купала быў прымушаны заняцца зямлёй, каб утрымаць сям'ю. Прыходзілася аднак утрымоўваць і пана, якому трэба было плаціць не малыя сумы за арандаваную зямлю. Таму ў 1903 годзе Купала кідае гаспадаранне і пачынае працаваць прыватным настаўнікам, а пасля канцылярскім чыноўнікам у следчага. У следчага працаваў аднак нядоўга. Аказалася, што яго почырк настолькі невыразны, што напісанае ім мала хто можа прачытаць.

У 1904 годзе Купала прыняў на сябе абавязак прыказчыка ў маёнтку Беліцы ў Магілёўскай губерні. Мясцовы абшарнік моцна падкрэсліў, што элементарным абавязкам Купалы-прыказчыча з'яўляецца самая жорсткая эксплуатацыя наёмнікаў. Аднак Купалу не давялося „эксплуатаваць" рабочых. У сувязі з хваробай маці пакінуў ён службу ў Беліцы і паехаў у Селішча і тут зноў заняўся гаспадаркай. Але і на гэты раз зямля не здолела прыкаваць яго на даўжэйшы час. Ужо ў 1905 годзе пакідае ён Селішча і пачынае працаваць на спіртным заводзе ў маёнтку Семкава. Да 1908 года пераязджае ён з аднаго спіртнога завода на другі, працуючы ўсюды галоўным чынам як чорнарабочы.

У 1908 годзе пры дапамозе важакоў беларускага нацыянальнага руху і галоўным чынам выдаўцаў „Нашай нівы" Купалу ўдаецца ўладкавацца ў Вільні на работу ў прыватную бібліятэку Даніловіча „Знание". Праз год Купала выехаў з Вільні ў Пецярбург, дзе паступіў на агульнаадукацыйныя курсы Чарняева. Там Купала карыстаўся з матэрыяльнай і духоўнай дапамогі вядомага беларускага адраджэнскага дзеяча прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Знаёмства з Б. Эпімахам-Шыпілам знайшло свой адбітак у аўтабіяграфіі Купалы: „К тому же иметь такого доброго опекуна, каким для меня являлся Бр. Эпимах-Шипило, не могло оказаться для моего умственного развития отрицательным. Совместная жизнь моя с этим человеком навсегда оставила во мне самые лучшие воспоминания".

Таксама высока ацэньвае Купала значэнне агульнаадукацыйных курсаў Чарняева. Праўда, паэт не без горычы гаворыць, што ў сувязі з сваім зацікаўленнем „вясёлай кампаніяй" замала салідна займаўся навукай, аднак падкрэслівае, што прысутнасць на лекцыях і семінарах дала вельмі многа ў паглыбленні тэарэтычных ведаў, знаёмстве з літаратурай і кантактах з многімі прадстаўнікамі рускай навукі і пісьмовасці.

першыя ўступілі ў бой. У кніжцы *„Буг в огне“* І. М. Шыбакоў сцвярджае:

*„Адбіваючы атакі ворага з правага фланга, доты „Безымянны“, „Пчолка“ і „КІМ“ вялі амаль безупынны агонь. На другі дзень праціўнік змяніў крыху кірунак атакі. Галоўныя яго намаганні авалодаць нашымі пазіцыямі ішлі ўжо не з захаду, але з паўднёвага захаду, з боку надбужнай даліны. Доты малодшых лейтэнантаў Зайцава (значыць, „Холм“, што ў лесе за вёскай Турна Малая, дзе знаходзіўся тады палітрук Локцеў) і Еськова (значыць, дот „Чорны“, у лесе над балотам), а таксама дот „Быстры“ (найбліжэй шашы, дзе камандаваў Шыбакоў) сумесным агнём прыціскалі да зямлі атакуючых немцаў.*

*У гэты дзень зранку ў наш дот „Быстры“ прыходзіў капітан А. В. Назараў разам з начальнікам штаба і некалькімі байцамі“.*

Капітан **Анатоліў Васільевіч Назараў** быў камандзірам 16 асобага батальёна, зона абароны якога пачыналася за вёскай Слохі і распасціралася аж за Драгічын — ад **Крупіцкіх хутароў** па вёску **Мінчэва.** Штаб памяшчаўся ў маёнтку Крупіцы, а начальнікам штаба быў нейкі Міжэвіч. Яго імя і ваеннае званне не ўдалося мне, на жаль, устанавіць. Аб баявых дзеяннях 16 батальёна будзе яшчэ нагода пагутарыць асобна. Тут я ўспомніў пра яго, бо ў час наведвання капітанам Назаравым дота „Быстры“ здарыўся даволі забаўны выпадак, які амаль не закончыўся трагічна.

Вакол дота „Быстры“ расло высокае, ужо каласістае жыта. Капітан Назараў разам са сваімі сябрамі, хаваючыся ад ворага, прабіраўся праз гэтае зялёнае мора. Найперш згледзеў яго Пятро Плаксей і адразу схапіўся за свой кулямёт. Падумаў, што гэта немцы.

— Таварыш лейтэнант, — далажыў ён Шыбакову, — немцы жытам атакуюць! Страляць?

Шыбакоў прыгледзеўся ў бінокль. На шчасце, ён асабіста ведаў камандзіра 16 кулямётнага батальёна. Не адрываючы вачэй ад бінокля, рукой даў знак байцу, каб не гарачыўся. Плаксей аднак не адняў свайго „Дзегцярова“ ад пляча.

— Адставіць! — загадаў малодшы лейтэнант. — Свае, — дабавіў, баючыся, каб салдат у гарачцы не пацягнуў за курок кулямёта. Што ж, на вайне і такое здараецца.

*„Затым,* — піша мне ў лісце Іван Шыбакоў, — *далажыў я капітану Назараву як старэйшаму па званню камандзіру аб актуальнай баявой абстаноўцы на сваім адрэзку і мы стаялі на дарозе ды проста гутарылі па-сяброўску...“*

(Працяг на стар. 6)

## ПАЛОСКА ДЗЯДЗЬКІ КВАСА

### РЭНТЫСТЫ

*Сёння на старыя годы*
*Створаны усім выгоды.*
*Месяц ў месяц лістаношы*
*Даручаюць рэнту — грошы.*
*Хопіць і на хлеб, на кашу,*
*Хваліць Бога і Уладу нашу —*
*За дагляд, дармовы лекі,*
*Ўсебаковую апеку.*
*Ў вёсках на старыя годы*
*Да таго ж даюць гароды.*
*На іх сеюць моркву, мак,*
*Бульбу, рэдзьку, пастарнак,*
*Боб, часнок і калафёры,*
*Агурочкі, памідоры,*
*Гарбузы, салаты крышку,*
*Свёклу, буракі, радыску.*
*Дзедка кажа ўсё бабулі,*
*Што найбольш садзіць цыбулі,*
*А капусты — дзве-тры соткі,*
*Розны ягады салодкі,*
*І сланэчнікі, гароху,*
*Ўсяго рознага патроху.*

* ✲ *

*Добра ўпраўлены гарод*
*Выдасць плёнаў на ўвесь год.*
*Шмат ўсяго было б прадаць,*
*Каб сваім не трэба даць —*
*Гарадскім сыночкам, дочкам,*
*Ўнукам, ўнучкам-беларучкам.*
*Ўсе ўсяго бяруць патроху*
*(Смаказнаўцы на дармоху.)*
*Родненькія ўсе мілюткі*
*І на цапу-лапу хуткі*
*(Ці з каморы ці з гарода) —*
*Вытрыскі нашага рода.*

* ✲ *

*Хоць рэнтысты усе ў выгодзе,*
*Не заўсёды жывуць у згодзе.*
*Чуў я раз (быўшы суседам),*
*Сварылася баба з дзедам.*
*Баба кажа: — Слухай дзед,*
*Ты не варт ўступіць ў мой след.*
*Петушына ў цябе вага,*
*Грэхат ты стары, гарага.*
*Ой, пакіну цябе, дзеду,*
*Да Амэрыкі паеду.*
*— З лёгкім вецярком, хоць зараз.*
*То ж вялікі мне амбарас!*
*На Аляску, на Фларыду!*
*Не шкада такую брыду.*
*Баба вырачыла вочы:*
*Божа! Што стары балбоча?!*
*— О, то так! То не паеду! —*
*Верашчала баба дзеду.*
*— Хочаш но мяне пазбыцца,*
*З маладою ажаніцца?!*
*— Ну й не едзь, мара, маўчы.*
*Глупстваў мне не сакачы.*
*Ды налі настойкі чарку,*
*Закругляй дурную сварку.*
*Што ж, бывае, што й старэчы*
*Пасварацца недарэчы.*
*Я з сваёю то ж не раз*
*Гарррканёмся...*

**Дзядзька Квас**

А дзе ты такога пашане ці культуры навучыш, калі бацькі за ім? Яму ж таго і трэба. Што яму настаўнік, як во сядзіць маці і нічога яму не скажа, — цяжка ўздыхнула другая жанчына, абапёршы сваю сумку ледзь не аб плечы нечыя.

Маці гэта пачула. Прытуліла мацней сына ды глянула на жанчын, быццам бы шукала спачування. Але тыя толькі ядавіта ўсміхаліся і насмешліваківалі галовамі.

— Мы ўжо дзесяць гадзін у дарозе. Пераязджаем з аўтобуснага на чыгуначны вакзал, — не вытрымала маці. — А ён яшчэ калека, — і паказала на ногі сына, якія нейкая страшная хвароба павыкручвала ступнямі ў сярэдзіну.

## ЕЧНАСЦЬ

Пасажыры, прагныя сенсацыі, так і адвярнуліся ў іх бок. Некаторыя нават з сядзенняў паўставалі ды моўчкі заўзіраліся. Хлопчык пачырванеў ды адвярнуўся.

— Ну так, якія бацькі, такія і дзеці. Бароняць іх, а потым яны вырастаюць на хуліганаў, што вуліцай страшна прайсці, — буркнула адна з жанчын. — Як хворы, то чаго ездзіць? Дома ляжаць трэба.

— Скакаў, то і даскакаўся, — кінула другая.

У дзіцяці задрыжэлі плечы. Яно плакала. Па твары маці таксама пакаціліся слёзы. Узяла сына на рукі ды падсунулася. На свабоднае месца жанчыны паставілі клункі. Пасажыры зноў вярнуліся да сваіх думак. Сенсацыя закончылася.

**М. Шаховіч**

## ЦІ ЎВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...Беластоцкая ваяводская партыйная арганізацыя налічвае 45200 членаў і кандыдатаў.

...Беластоцкая ваяводская арганізацыя ЗСМП налічвае звыш 43 тысяч членаў.

ская. — Тут малое дзіця з усім справіцца, так адмыслова ўсё прыдумаў мой сын, — дадае яна. — Тэхніка, вось у чым справа! Шкада, што чалавек ужо стары і нядоўга давядзецца ўсяму гэтаму радавацца...

Яна хвіліну памаўчала і зараз зноў дадала:

— А мой муж не дачакаўся... — і ўздыхнула. — Ён жа таксама стараўся быць добрым гаспадаром...

Так, Ян Керсноўскі ў цяперашнім узросце свайго сына, значыць, у 40 гадоў, трымаў у гэтых жа хлявах і на гэтай жа гаспадарцы па 4-5 дойных кароў і гэта лічылася ўжо многа. **Цяпер у яго сына, Яўгенія Керсноўскага, 18 дойных кароў.** Праўда, зямлі давялося крыху дакупіць, хаця ў Керснове і ў навакольных вёсках не так ужо і лёгка знайсці кусочак свабодных зямельных угоддзяў. Але рук да працы яму не прыбавілася. Ён і жонка Яніна, чацвёра дзяцей-школьнікаў ды старэнькая маці. Калі аднак добра ўсё абдумаць і распланаваць... І гэтаму варта павучыцца ў Керсноўскіх з Керснова. А ў Маяравізну над рэчкай Нурэц завітаем мы ўжо іншым разам.

**Віктар Рудчык**







*Калектыў з Грэбянёў на цэнтральным аглядзе.*

*Фота М. Шаховіча.*

(Працяг са стар. 1)

## АПОШНІ ЗВАНОК

Пачатковая школа № 3 у Бельску Падляшскім — гэта школа спецыфічнага характару. Не мае яна акрэсленай тэрыторыі набору сваіх вучняў, так як зборныя гмінныя школы. Прыходзяць сюды тыя дзеці, якія хочуць вывучаць беларускую мову, якіх прыцягвае высокі ўзровень навучання. Ходзяць сюды з розных куточкаў горада і не толькі: даязджаюць з Левак і Праневіч, Парцава і Рыгораўцаў. Даязджаюць самі аўтобусамі або цягнікамі. Школа не мае свайго транспарту. Вучням часамі прыходзіцца чакаць аўтобуса ці цягніка па некалькі гадзін. Школа дапамагае ім як толькі можа. Дзякуючы намаганням дырэкцыі і вялікай дапамозе з боку інспектара асветы і выхавання Базыля Нядзведскага ўжо два гады маюць тут сваю святліцу, дзе можна падрыхтаваць урокі, пачытаць кнігу. Карыстаюцца з яе не толькі даязджаючыя. Пры святліцы ўладзілі лялечны тэатр, з пастаноўкамі вучні выступаюць на розных школьных мерапрыемствах.

Колькасць вучняў з году ў год павялічваецца. Школьны будынак нібы не малы, але безупынна адчуваецца недахоп памяшканняў. У наступным годзе, праўда, атрымаюць у карыстанне дзве класныя залы ад мясцовага ліцэя, але і гэта поўнасцю не вырашыць сітуацыі. Колькі трэба пасядзець, каб трапна і ўдала скласці план заняткаў! Урокі трэба весці зменамі. Ідуць яны ад восьмай гадзіны раніцы да шасці вечара. Працуе тут для дзяцей кухня ды сталовая, з якой карыстаецца аж 320 асоб. Вельмі дапамагае перш за ўсё Цэх рознага рамяства, а часткова таксама Таварыства сяброў дзяцей, бацькоўскі камітэт ды інспектарат асветы і выхавання. Апрача абедаў ад лістапада да сакавіка могуць тут дзеці выпіць шклянку гарачага малака.

Недахоп памяшканняў — гэта адна істотная праблема. Наступная — недахоп настаўніка з поўнай музычнай падрыхтоўкай. Іх мара цяпер — каб новы навучальны год распачаць з спецыялістам па музыцы. Вучыцца ж тут звыш паўтысячы дзяцей. Хто ведае, які ў каго дрэмле талент. І яны, настаўнікі, павінны яго разбудзіць. Вучню зараз не хапае тых ведаў, якія ён атрымлівае з падручнікаў. На пэўнай ступені пачынае радзіцца зацікаўленне, якое трэба вылавіць і падтрымаць. У гэтым напрамку і вядуць настаўнікі свае намаганні. Увялі яны цікавую форму працы. У 40% вучні не носяць падручнікаў. Школа мае свае. Тыя, якія былі ўжо, здавалася б, знішчаныя і не надаваліся, яны тут падклеілі, пераплялі, кніжкі сталі зусім прыдатныя. Дзіця свае падручнікі трымае дома, а на ўроках карыстаецца са школьных.

Школе пятнаццаць год. І, можна сказаць, пятнаццаць год добрай, руплівай працы. Задумоўваюцца над наданнем ёй імя. Плануюць таксама новае абсталяванне. Хочуць стварыць сапраўдныя класа-кабінеты з новымі прыладамі і дапаможнікамі.

Вось і канікулы. Час адпачынку і настаўнікам, і вучням. Многія з іх паедуць у лагеры. Форма адпачынку ў бельскай „Тройцы“ разгорнута шырока не толькі ў час канікул. Уладжваюць тут шматлікія экскурсіі, пазнаюць сваю Айчыну. Толькі ў месяцы маі на экскурсіях было аж 275 вучняў, а калі зрабіць падлік за цэлы год, дык было іх 403, амаль кожны вучань. Тут вучаць ашчаднасці. Кожнае дзіця мае на школьнай ашчаднай кніжцы свае грошы і не існуе такая праблема, што няма чым заплаціць. Вось, прыкладна, у мінулым школьным годзе заашчадзілі ў суме 477 000 злотых. Вялікую дапамогу ў арганізаванні экскурсій атрымоўваюць з боку гарадскога аддзела ТПД, а асабліва яго сакратара Антона Міхальскага.

Яшчэ некалькі дзён — і дзеці раз'едуцца. Будуць збіраць уражанні, вучыцца самастойнасці, адпачываць, каб пасля канікул з новымі сіламі сесці за школьную парту.

**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 2)

## ЛІТАРАТУРНАЯ ВЯСНА Ў БЕЛЬСКУ

Цікавая і карысная сустрэча!

Як наступны пісьменнік прыехаў да нас вядомы гісторык — дац. д-р Юзэф Вуйціцкі з Варшавы. Сустрэча адбылася з нагоды святкавання Дзён Бельска. Дац. д-р Юзэф Вуйціцкі правёў у Бельскім доме культуры дзве сустрэчы. 24 мая выступіў з дакладам на тэму гісторыі Бельска, старога і славутага горада, які цяпер святкуе 550-годдзе прызнання гарадскіх правоў. Для многіх слухачоў гэта была дасканалая аказія, каб пазнаёміцца з цікавай і багатай гісторыяй нашага горада.

25 мая дац. д-р Юзэф Вуйціцкі прадставіў жыццё і баявы шлях вядомага ўсім бяльчаніна — капітана Уладзіслава Высоцкага, Героя Савецкага Саюза. На гэтую сустрэчу прыйшлі многія знаўцы гісторыі.

Рэдкая і незабыўная сустрэча!

25 мая г.г. у Бельскім доме культуры выступіла група маладых паэтаў з Беластока: Збігнеў Мінко, Міраслаў Тарасюк, Ала Ваўжыняк, Зоф'я Зенцкоўская і Рышард Зенцкоўскі. Прыехалі яны па запрашэнню мясцовага прадпрыемства „Рух“. Паэзія маладых аўтараў — глыбокая па зместу, цікавая. Можна жадаць толькі ім далейшых творчых пошукаў.

Да наступных сустрэч, дарагія сябры!

**Надзея Артымовіч**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, звяртаюся да цябе са сваімі клопатамі і прашу парады. Хадзіла я з хлопцам, якога вельмі кахала. Зрэшты, ён мяне таксама кахаў. Наша знаёмства працягвалася шэсць гадоў і раптоўна скончылася. Як гэта здарылася, не магу зразумець. Мой хлопец пайшоў у армію. Але ўсё было як найлепш. Як толькі змог ён вырвацца хоць на хвіліну, наведваў мяне. Але калі вярнуўся з войска, усё змянілася. Пачаліся непаразуменні. Часта гневаліся мы амаль без прычыны, з-за нейкай дробязі. Аднак, калі яго не было, я сумавала за ім, а калі спатыкаліся, адчувала незадаваленне. І ўрэшце перасталі мы зусім спатыкацца. Я нават узрадавалася, уздыхнула з палёгкай. Але праз нейкі час засумавала ізноў. Найгорш адчувала сябе, калі незнарок спатыкаліся. Не было ўжо пра што гаварыць і потым доўга ныла мне сэрца. Цяжка мне цяпер. Не ведаю, ці хлопец мой не мае дзяўчыны і хацелася б, каб вярнуўся ён да мяне. Але ці споўніцца гэта? А калі так, ці не будзем ізноў сварыцца, нервавацца?

Аня з Беласточчыны

Аня, шэсць год вашага знаёмства гэта вялікі кусок часу. Тое, што спачатку вы былі вельмі згодныя, ясна. Былі вельмі маладыя і кіраваліся толькі пачуццямі, якія засланялі вам усялякія недахопы. Але ішоў час, астыла гарачае каханне, вы глянулі крытычна адно на другое, вось таму вы і не згаджаецеся ўжо, даходзіць да непаразуменняў, якіх спачатку ў вас не было. Але яшчэ ў цябе, Аня, асталіся відаць рэшткі недатлеўшага кахання, ды за такі доўгі час прывычаілася ты да яго, таму і сумуеш яшчэ. Але яшчэ крыху — і гэта пагасне. Зрэшты, рэдка здараецца, каб пажаніліся тыя, што сябруюць аж так доўга.

**Сэрцайка**

Мамо, мамо, што робыть, —
ны схотіў козак любыть?
Гэй, гэй, уха-ха!
Ны схотіў козак любыть.
Іды, доню, до гаю —
шукай зіелья розмаю.
Гэй, гэй, уха-ха!
Шукай зіелья розмаю.
Шчэ й до гаю ны дошла —
розмай-зіельечко нашла.
Гэй, гэй, уха-ха!
Розмай-зіельечко нашла.
А шчэ й розмай ны
скіпіеў —
а ўжэ козак прыліетіеў.
Гэй, гэй, уха-ха!
А ўжэ козак прыліетіеў.
А што ж тэбэ прынэсло,
чы чыэрэсло, чы выэсло?
Гэй, гэй, уха-ха!
Чы чыэрэсло, чы выэсло.
А чого ж ты прыліетеў,
то ж любыты ны схотіеў?
Гэй, гэй, уха-ха!

### ФАЛЬКЛОР

### ЛЮБОЎНАЯ




То ж любыты ны схотіеў?
Гэй, гэй, уха-ха!
Прынюс мэнэ сывы куонь
До дывчыны на постыэль.
до дывчыны на постыэль!

Ад Ніны Такаюк, 1924 г. нараджэння, вёска Мікулічы гм. Мілейчыцы, запісаў у снежні 1979 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Д. прыгавораны на 1,5 гады турмы і 20 000 зл. грашовага штрафу. Выкананне кары турмы адтэрмінавана ўмоўна. За гэтую ўмову суд палічыў абавязак заплаты грашовага штрафу. Д. працуе і зарабляе 3,5 тысячы злотых і не мае магчымасці заплаціць аднаразова 20 тысяч. Што ён павінен рабіць, каб суд не загадаў выканаць кару турмы?

АДКАЗ: Калі Д. мае магчымасць на працягу некалькіх месяцаў знайсці 20 тысяч злотых, то можа звярнуцца ў суд з просьбай адтэрмінаваць тэрмін заплаты гэтай сумы. Калі ў яго гэтай магчымасці не прадбачыцца і ён можа толькі сплачваць патроху з заработнай платы, то павінен звярнуцца ў суд з просьбай разлажыць яму штраф на месячныя раты. Суд можа адтэрмінаваць сцягванне штрафу або разлажыць штраф на раты на адзін год. У выпадках, якія заслугоўваюць на асаблівую ўвагу, суд можа разлажыць штраф на тры гады. Калі прыгавораны, якому штраф разложаны на раты, не заплаціць у вызначаным тэрміне хоць адну рату, суд можа адмяніць пастанову аб разлажэнні штрафу на раты і загадаць прымусовае сцягненне цэлага штрафу, або замяніць штраф на турму. На гэтай аснове суд можа таксама загадаць выкананне адтэрмінаванай умоўна кары турмы.



*У нядзелю над Нарвай.* *Фота В. Рудчыка*




ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### СМАЖАНЫЯ ПІРАЖКІ З МЯСАМ

На 30 дэкаў мукі ўзяць 1 жаўток, 2 лыжкі алею, соль, крыху сцертай мушкаталовай галкі (мускатнага арэха), крышачку парашку для пячэння і ваду. На фарш бярэм: 25 дэкаў зваранага мяса, цыбуліну, соль, перац.

У прасеяную муку дадаць соль, мускатны арэх, жаўток, алей і столькі летняй вады, каб атрымалася мяккае цеста, якое лёгка можна вымясіць. Палажыць цеста ў місачку, накрыць і паставіць прынамсі на гадзіну. Варанае мяса тым часам змалоць у мясарубцы, дадаць крыху падсмажаную цыбуліну, сыры бялок, заправіць па смаку, вымяшаць. Калі фарш будзе занадта сухі, можна дадаць лыжку малака ці цёплай вады. Раскатаць цеста на тоненькі блін. Вострым нажом парэзаць цеста на квадраты, адзін бок якога мае 6 см. Разлажыць на квадраты галкі з фаршу і зацiскаць іх пальцамі з двух бакоў. Атрыманыя піражкі класці ў даволі вялікую колькасць разагрэтага смальцу ці алею і смажыць не надта доўга, так, каб піражкі былі залацістага колеру. Выняўшы іх з тлушчу, падаваць з салатай ці тушанай капустай.

З гэтага самага цеста можна зрабіць піражкі з фаршам з капусты і грыбоў, або капусты і мяса.

### ПІРАЖКІ З БУЛЬБЯНОГА ЦЕСТА З СЫРАМ І ЦЫБУЛЯЙ

На 75 дэкаў зваранай бульбы ўзяць 25 дэкаў мукі, 2 яечкі, соль. На фарш: 20 дэкаў сыра, 2 цыбуліны, лыжку тлушчу, соль, перац.

Звараную бульбу прапусціць праз мясарубку, змяшаць яе з сырымі яечкамі. Дадаць муку, замясіць цеста (доўга не мясіць!) Расцерці сыр, дадаць падсмажаную цыбулю, а калі фарш атрымаецца занадта сухі, можна дадаць да сыра лыжку смятаны. У фарш дадаць солі, перцу, а хто любіць, дык можа дадаць і майранку. З цеста зрабіць даволі тоўсты валік. Нажом адразаць ад яго не надта тоўстыя аладкі, класці на іх фарш і рабіць піражкі, старанна заляпліваючы. Піражкі павінны мець прадаўгаватую форму. Як толькі падрыхтуем піражкі, трэба адразу іх варыць, паколькі бульбяное цеста становіцца хутка рэдкім. Падаем на стол піражкі, паліўшы тлушчам і з салатай.

**Гаспадыня**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, снілася маёй сяброўцы, што я ішла з нарачоным і мы трымаліся за рукі. Я была вельмі вясёлая. На двары было вельмі зялёна, прыгожа, свяціла сонца, так што падалі цені на дарогу.

Што гэта абазначае, калі сніцца разарваны ланцуг ад веласіпеда, за які я з нарачоным трымалася, ён за адзін канец, а я за другі, вельмі моцна?

Трэці сон. Што абазначае, калі сніцца, што спіш з нарачоным?

Астроне, прашу, хутка надрукуй, чакаю з нецярплівасцю.

Марыля

**Марыля!** Чарга ёсць чарга, і ў сённяшнія неспакойныя часы нялёгка дастацца да варажбіта. Людзей мучыць дэпрэсія, нервовыя хваробы. Часам нават — гэта перасыт ад дабрабыту. Людзі тады не зацікаўлены ніякай працай, не ведаюць, чаго хочуць, не маюць у жыцці ніякай акрэсленай мэты. Вось і пхаюцца да варажбітоў, займаючы непатрэбнае месца ў чарзе.

Сон тваёй сяброўкі і твой першы сон вельмі добрыя, сведчаць аб добрых тваіх адносінах са сваім хлопцам, аб вялікім каханні (зелень, сонца ды ланцуг, які вас моцна спалучыў). Відаць, што будзе добра вам разам. Наконт трэцяга сну магу толькі сказаць, што дзяўчатам часта сняцца такія сны перад шлюбам (пасля шлюбу — радзей). І думаю, што апрача нейкіх фізіялагічных прычын, іншых прычын няма чаго тут дашукоўвацца.

**Астрон**

(Працяг са стар. 5)

## У бетоннай труне

Шчыра кажучы, Шыбакоў амаль выключна слухаў. Гаварыў капітан Назараў. Ён быў упэўнены, што яшчэ ў гэты ж дзень падцягнуць на Буг галоўныя сілы Чырвонай Арміі.

— Мы таксама моцна трымаемся і не адступім! — заявіў рашуча. — Асабліва за вёскай Мінчэва, там у мяне адважныя хлопцы і доты ў іх найлепш падрыхтаваны да абароны.

Здалёк, з-за маладзенькага лесу, вецер прынёс грукат аўтамабіля.

— Спыніце машыну! — загадаў капітан Шыбакову.

— Трэба захаваць асцярожнасць, бо можа гэта быць варожая машына, — адказаў малодшы лейтэнант.

— Што вы! — засмяяўся капітан. — З гэтага напрамку, ад Сямяціч? Адкуль бы ўзяліся там немцы? Спыніце яе! — паўторна загадаў ён Шыбакову.

„...*Я выняў пісталет,* — успамінае Шыбакоў, — *і пайшоў насустрач машыне. Было ўжо недалёка. І тады я заўважыў, што з адкрытага акна высунулася ў мой бок дула аўтамата. Я тут жа ўскочыў у адхон шашы. Якраз у пару, бо дзве чаргі куль, быццам злыя пчолкі, забзычалі над маёй галавой і варожая машына праскочыла побач здзіўленага капітана Назарава. Ёй удагонку пасыпаліся стрэлы з нашага дота. Страляў таксама дот „КІМ“. Такім чынам, перад вёскай Слохі гэтую машыну нашы байцы падбілі, а капітан Назараў прасіў у мяне прабачэння, што без патрэбы выставіў мяне на небяспеку. Гаварыў, што ён не спадзяваўся немцаў з гэтага боку, што ўзяў гэты аўтамабіль за свой, савецкі, і хацеў даведацца нешта пра баявое становішча на фронце, дзе ён зараз устаткаваўся, дзе знаходзяцца нашы галоўныя сілы, чаму яны так доўга не гоняць ворага з роднай зямлі?..*“

На шчасце, усё гэта закончылася толькі хвілінай страху, а малодшаму лейтэнанту Івану Шыбакову давялося яшчэ перажыць не такое няшчасце, хаця ў пісьме да мяне ён скромна сцвярджае, што не варта апісваць усяго аж так падрабязна, што аб баявых дзеяннях сваіх аднапалчан расказаў ён у кніжцы *„Буг в огне“*, дзе рэдактары адвялі на яго ўспаміны 6 старонак друку. З гэтых успамінаў вынікае, што ў сераду, 25 чэрвеня 1941 года, пасля трох дзён абароны, немцы ўсё-такі дарваліся да дота „Быстры“. Іван Шыбакоў быў цяжка паранены ад узрыву гранатаў. Гітлераўцы падумалі, што ўжо пакончылі з абаронцамі гэтага дота. Для пэўнасці запусцілі газы. На дапамогу паспяшаліся таварышы з суседніх дотаў: „Горны“, „Холм“ і „Чорны“. 26 чэрвеня смелай атакай адкінулі яны немцаў і забралі астаўшыхся яшчэ ў жывых абаронцаў дота „Быстры“. Перавялі іх у суседні дот „Горны“. Амаль усе былі паранены. Тут заняўся імі ваенны фельчар *Афанасій Маліноўскі*. Дапамагаў чым мог. Найчасцей толькі добрым словам. Сярод жыхароў вёскі Слохі Аннапольскія асталася аб ім, аб доктару Маліноўскім, як яго тут называюць, самая лепшая памяць. На жаль, не ўдалося мне адшукаць ані яго самога, ані ягонай сям'і. Ведаю толькі, што доктар Маліноўскі выратаваў ад смерці многіх сваіх баявых таварышаў і заслужыў на добрую славу. Варта яму прысвяціць асобны расказ.

На сёмы дзень вайны, 29 чэрвеня 1941 года, немцы падабраліся і да дота „Горны“. Гэты перыяд баявых дзеянняў на Бугу Іван Шыбакоў успамінае вось так:

„*Калі дот „Горны“ фашысты блакіравалі, яны сталі страляць у дзіркі для падземнага кабеля...*“

Тут трэба паясніць, што гэта было поўнасцю магчымае, бо ўсе доты, у тым ліку і дот „Горны“, яшчэ не былі абсыпаны зямлёй, стаялі аголеныя, а кабелі і другое абсталяванне не паспелі пракласці.

„...*мы, раненыя,* — расказвае Шыбакоў, — *ляжалі на нарах на ніжнім паверху дота. Усе, хто змог, кінуліся з нар, хаваліся ў куткі, за сцены. Я быў вельмі аслаблены ад затраты крыві і ўжо як адзін з апошніх пачаў карабкацца са сваіх нараў, ды так няўдачна, што ў цемнаце паляцеў у калодзеж, запоўнены вадой...*“

Ад болю патраціў на хвіліну свядомасць і арыентацыю. Халодная вада вярнула яго да жыцця. Дасягала яму амаль па шыю. Падумаў, што гэта ўжо канец, што назаўсёды астанецца ў гэтай бетоннай труне. І гэта здалося яму страшнейшае ад самай смерці, бо не ведаў, што яшчэ яго чакае. Аб гэтым, аднак, ужо наступным разам.

**В. Рудчык**



*Малодшы лейтэнант Аляксандр Васільевіч Еськоў — камандзір кулямётнага дота „Чорны“. Адзін з удзельнікаў баёў на Бугу, А. К. Шанькоў з Брэста так вось пра яго ўспамінае: „...Бачыў я ў лагеры Бяла Падляшска і малодшага лейтэнанта А. В. Еськова. Мы разам канчалі курсы малодшых лейтэнантаў, але ён служыў у 17 батальёне. Я быў „добры“, а ён яшчэ „лепшы“ — паранены ў нагу, твар і рукі спаленыя, запухшыя. Да крайнасці знясілены ад голаду“.*

# РАБОЧЫ ГРУКАТ

Сяджу за сталом і спрабую напісаць гумарэску. Нічога не выходзіць. Няма натхнення і не знаходжу сюжэта.

На двары вясна, сонца. Чуецца грук і стук — гэта сёння прыехалі рабочыя рамантаваць наш дом. Вось і ўзяліся за працу.

— Стук! Стук! Стук! — гэта, відаць, длубаюць сякеры.

— Трах! — мабыць, ад сцяны нешта адрываюць.

„Малайцы, — думаю пра будаўнікоў. — Працуюць... Не то што я, лайдак. Колькі вунь сяджу за сталом, а не выседзеў і радка. Не прыходзіць у галаву сюжэт і ўсё, хоць ты трэсні.“

— Трах! — грымнула асабліва моцна, і ўслед — выбух смеху.

„Весела працуюць, з агеньчыкам, — хвалю рабочых і зайздрошчу іхняй працоўнай актыўнасці. — Яны стараюцца, пацеюць, а перада мной па-ранейшаму чыстыя аркушы паперы...“

— Бах! — і зноў выбух смеху.

„Ат, — думаю, — ну яе да д'ябла, тую гумарэску. Напішу лепш заметку пра гэтых рабочых хлопцаў. Пахвалю іх, яны ж заслужылі.“

Вылажу з-за стала, выходжу на двор. І бачу тых рабочых. Усе сабраліся ў халадку пад ліпай. Чацвёра сядзяць за столікам і рэжуцца ў даміно. Астатнія стаяць вакол — балельшчыкі.

— Рыба! — крычыць адзін з што ёсць сілы гакае па стале.

Усе рагочуць.

— А я думаў, вы дом рамантуеце, — гавару ім.

— У такі дзень і конь не вязе, а мы ж людзі, — адказваюць хлопцы.

А на мяне раптам находзіць творчае натхненне. Знайшоўся і сюжэт. Бягом вяртаюся да свайго стала, хапаю ручку, а праз кароткі час гатова вось гэта гумарэска.

**Васіль Хомчанка**

*Без слоў.*

**Пакуль сем раз мерыў, усё, што можна, ужо адрэзалі.**





*— Праз кожную гадзіну завозіць на залу пасяджэнняў каву...*
*— Каб не спалі.*

## АДЗІН МАРШРУТ

Адзін задрыпанец дзесьці добра пагуляў. Падыходзіць на аўтобусным прыпынку да задніх дзвярэй аўтобуса і, ледзьве паварочваючы языкам, пытае:

— Ку-д-ды ён едзе?

— Да Дома культуры, дзядзьку! — адказваюць пасажыры.

Дзядзька, выпісваючы мудрагелістыя крэндзелі, ледзьве адольвае шлях ад задніх дзвярэй да пярэдніх і зноў пытае:

— Ку-д-ды ён едзе?

— Ды да Дому культуры! — адказваюць яму.

— Цю! — сціскае плячыма дзядзька. — Чаго гэта сёння ўсе аўтобусы едуць да Дома культуры? — і зноў з цяжкасцю дабіраецца ад пярэдніх дзвярэй да задніх і выходзіць з аўтобуса.

### У РЭСТАРАНЕ

— Афіцыянт, у супе, які вы мне прынеслі, — таракан.

— Не бярыце гэтага блізка да сэрца: ён многа не з'есць.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### НА РЫНКУ

— Што просіце, дзядзьку, за гэту карову?

— Я яе і за тры сотні не аддам!

— Чаму?

— Бо яна не мая, а таго гаспадара, што вунь каля той карчмы стаіць.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Мікалая Панфілюка з Дубіч Царкоўных змяшчаем рускую народную песню

### Глухой, неведомой тайгою

Глухой, неведомой тайгою,
Сибирской дальней стороной
Бежал бродяга с Сахалина
Звериной узкою тропой.

Шумит, бушует непогода,
Далек, далек бродяге путь.
Укрой его, тайга глухая!
Бродяга хочет отдохнуть.

Там далеко за темным бором
Оставил родину свою.
Оставил мать свою родную
Детей, любимую жену.

„Умру, в чужой земле зароют.
Заплачет маменька моя.
Жена найдет себе другого,
А мать сыночка — никогда.“



## ДОБРЫ УЛОЎ

Прыходзіць Кастусь дадому і кажа жонцы:

— Глядзі, колькі я рыбы налавіў...

— А мне суседка гаварыла, што ты на базар заходзіў...

— Ну і што, я столькі налавіў, што давялося палавінку прадаць: цяжка было несці...

## ВЕЛЬМІ ПРОСТА

Настаўніца Алачцы:

— Па ставе плыве пара лебедзяў. Як пазнаць, дзе лебедзь, а дзе лябёдка?

— Трэба кінуць ім шматок булкі. Як нырнуў, то лебедзь, а як нырнула, то лябёдка.

## З „Весніка Задрыпоніі“ НАВІНЫ СЕРВІЗА

У цэнтральным парку Задрыпанкі ўсё для адпачываючых: рэстаран, кафэ, гаспода, бар, буфет, а таксама аперглупа міліцыі і выцвярэзнік.

## ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЁШКІ

Ці трэба захоўваць любоў да начальніка, калі звальняешся?



## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Ну і змучыўся я ўчора, калі гуляў у тэніс з Мак-Грэгарам, — скардзіцца адзін шатландзец другому.

— Чаму? Мак-Грэгар жа — дрэнны ігрок!

— Так, але ў нас была ўсяго адна ракетка!

*

— Розум вашага дзядзькі быў ясны да апошняга моманту?

— Не ведаю, — заўтра.

*

Турыст пытае ў карсіканца:

— Тут добра расце гародніна?

— Не вельмі.

— А вінаград?

— Таксама не.

— А вы спрабавалі пасадзіць хоць адну лазу?

— Ну, калі садзіць, тады, вядома, усё расце!



# ПРАЦЭС ВЫДАЛЕННЯ АЛКАГОЛЮ

Працэс выдалення алкаголю
ідзе марудна, трудна, паволі,
ідзе ён з болем, са стогнам,
са скрыпам,
з клятвенным хрыпам,
з навінным усхліпам,
ідзе ў цяжкім роздуме, у адчаі,
ідзе з дапамогай кавы і чаю,
вады мінеральнай, сыраквашы,
белага мякішу, маннай кашы,
валідолу, касторкі, настойкі...
Добра, што маем хоць сродкаў
столькі,
каб спрыяць выхаду алкаголю.
Працэс гэты — сімвал зямной юдолі.
Што за напасць гэта, што за
нішчасце,
відаць асабліва па кантрасце
з уваходам таго ж алкаголю.
У тэмпе чокнецца застолле:
„Пайшлі! Паехалі! Памчалі!“
Выпілі дружна, залпам, адчайна!
Тут жа цяпло разлілося па целе.
Атрымалі, што хацелі...

**Анатоль Вярцінскі**



*Чаго ў спорце не бывае!*



## ПРЫБЫТКОВЫ СМЕХ

Кожны смяецца, як умее. Н. Шэлфа з Каліфорніі яшчэ з дзяцінства адрознівалася нейкай хваравітай смяшлівасцю. Смялася заўсёды многа і непасрэдна — да слёз. Члены яе сям'і спачатку абураліся гэткім смехам без прычыны, а потым не вытрываўшы, пачыналі смяяцца і самі.

Не зрабілася яна менш смяшлівай і ўжо сталай замужняй жанчынай. Паржка палец на кухні — смяецца, упусціць і разаб'е талерку — смяецца, захварэе — таксама ёй смешна. Ва ўсякім непрыемным здарэнні яна знойдзе прычыну пасмяяцца.

Неяк з мужам яна наведала начны клуб. Гаспадары тут не вельмі ўмелі забаўляць наведвальнікаў: канферансье быў нудны чалавек. Публіка на яго выступленнях драмала. І раптам, калі ён падышоў да мікрафона і пачаў нешта гаварыць, у зале пачуўся такі серабрысты і мілагучны смех, што ўсе прысутныя спачатку здзіўлена павярнуліся да жанчыны сярэдніх год, а потым таксама пачалі смяяцца.

Назаўтра пра гэты выпадак было многа гаворкі сярод людзей, якія прысутнічалі ў клубе, і іх знаёмых. А потым Н. Шэлфу сталі запрашаць арганізатары розных прадстаўленняў і ў прыватныя кватэры, дзе збіраліся госці. Кожны гаспадар ведаў, што пры яе прысутнасці ніхто не сумуе, нават самыя панурыя і маўклівыя людзі становяцца вясёлымі і жыццярадаснымі.

Неўзабаве Шэлфе надакучыла бываць на званых чужых вячэрах. Яна ўсё часцей стала адмаўляцца ад запрашэнняў у госці. І суседзі зразумелі: за такі смех, які здольны разварушыць усё застолле, трэба плаціць.

Зараз Шэлфа смехам зарабляе добрыя грошы. Ужо стыхійна ўстанавілася і пэўная такса: 140 долараў за сеанс. Такім чынам, жанчына да свайго сямейнага бюджэту дадае кожны месяц каля тысячы долараў і, будучы хатняй гаспадыняй зарабляе больш за свайго мужа.




**Скажы, што ты думаеш аба мне, і я падумаю аб табе яшчэ горш.**